× **У местовай кассе.** Stadthauptmann прызывае публіку прыхадзіць у местовую кассу дзеля выплаты грошы на самай раніцы, хаця касса адчынена ад 9 да 12 і ад 4 да 6 гадз. У нядзелі і сьвяты, ў пятніцу і ў суботу пасьля палудня, у апошні і перэдапошні дзень кожнаго месяца пасьля палудня касса для публікі зачынена.

× **Сыр.** «Wiln. Ztg.» усё ешчэ жаліцца на неахвоту публікі купляць у коопэратывах кміновы сыр.

× **Конфітуры бяз цукру.** С прычыны недастачы цукру, сёлета яго на конфітуры выдаваць ня будуць. Хто хочэ варыць конфітуры, той павінен абыйсьціся без яго.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 8— 9 | + 21⁰ | + 10⁰ |
| 9—10 | + 21,5⁰ | + 9,5⁰ |

# З усяго Краю.

**Цэны за ўраджай:**

Глаўнакамандуючый на Усходзі назначыў гэткіе найвышэйшые цэны за ураджай:

за двайны цэнтнэр (6 пудоў) лепшаго сорту:

| | |
|---|---|
| сено с пожней | 7 м. |
| канюшына | 8 „ |
| салома | 4 „ |
| рознае збожжэ | 20 „ |
| гарох, фасоля, чэчэвіца | 36 „ |
| выка, пялюшка, сэрадэля | 30 „ |
| лён | 60 „ |
| чырвоная канюшына (насеньне) | 260 „ |

БЕЛАСТОК. Дзевяць беластоцкіх дабрачынных таварыств наладзілі разам вялікую забаву, каторая дала 3288 м. 99 фэн. чыстаго даходу. Гэтые грошы падзеляць роўна між тымі таварыствамі.

У апошнім часі тут было многа крадзежоў раменных пасоў ад машын, вызваных, як відаць, страшэннай даражынёй скуры, за каторую плоцяць да 15 руб. за фунт.

БЕЛАСТОК. 10 і 11 ліпня ў Беластоку цэлы рад устаноў па мянуў 13 гадаўшчыну тварца сыонізму, Гэрцэля.

БЕЛАСТОК. Stadthauptmann апавешчае, што дзеля утрыманьня біржы вазьніц с кожнаго звозчыка будуць браць у год па 10 марак, а ад ламавіка — 6 м. За гэты год падатак трэба заплаціць не пазьней 15 жніўня.

ГРОДНЯ. У чысьленых вёсках і мястэчках Гродзеншчыны ладзяцца вольна пажарніцкіе дружыны, каторые шмат дзе ўжо далі сваё права на быт.

Віленская жыдоўская трупа іграла на тутэйшай сцэне п'есу «Вясковы хлопец» Кобрына.

БЕЛЬСК. Вастрожная дырэкція шукае ўцёкшых арэштантоў: Майсея Карпа з Беластоку, Леона Саўку з Малеш, Бельск. пав., Ўладыслава Маліноўскаго з Гродні і Александра Лялюхоўскаго з Гродні.

ЯШУНЫ. Як кажуць мейсцовые жыхары, спадзяюцца вельмі добраго ўраджаю. Бульба так сама суліць вельмі добры збор.

СУВАЛКІ. Тут наладжэна прадажа малака для дзяцей да 6 гадоў, для хворых і слабых. Карты на малако выдаюцца пры Пецярбурскай вул 45.

СУВАЛКІ. Усіх каней сувальскаго павету будуць агледаць, ці ў іх німа насацізны. Агляд адбудзецца на жандарскіх станціях. Здаровым каням дадуць нумэры. Каней без нумэроў будуць конфіскаваць.

ШЛОКІ, Тэльшэўск. пав. Тут пачаўся вялікі пажар; пры сільным ветры ён у 2 гадзіны знішчыў 58 дамоў, у тым ліку сынагогу. Асталося цэлымі толькі 9 дамоў і касьцёл. Згарэло такжэ шмат дабра, але ахвяр людзьмі, на шчасьце, не было. Пажар, як здаецца, узняўся ад неасьцярожнасьці з агнём.

ЛІБАВА. У апошні дзень чэрвеня тут адбылося заседаньне грамадзкаго бэйрата пад маршалкоўствам Stadthauptmann'a. Фінансовае палажэньне места не палепшало. Павышэньне падатку ад забаў дасць 25.000 марак. У апошніе тыдні ўзяты з абароту на 210.000 марак местовых бонаў. Астаецца ешчэ ў абароці 1.790.000 руб.

Жыдоўская каробка і сынагогальны збор скасованы і заменены агульна-жыдоўскім падаткам.

Бедным цяпер выдаецца 8 кап. у дзень падмогі. Чысло безплатных порцій зупы для дзяцей узрасло да 420.

ЛІБАВА. У часі апошняй навальніцы ўтанулі тутэйшые рыбакі Крыш Упэнсэнка і Якуб Шымкевіч. Абодвы пакінулі жон і дзяцей.

---

МІНСК. «Gazeta Polska» з 8 чэрвеня пішэ:

У Мінску, ў цэнтры места, было дзікае забойство пекара Каплана, яго жонкі і 2 дачок. Яны забіты сакерай.

Вялізарные лясные пажары ў Піншчыне знішчылі да званьня значные абшары старадрэвіны.

У Ленінскім лясьніцтве (ў Мазырскім пав.) гараць дзьве тысячы дзесяцін, у Броўскім (Бабруйскі пав.), як пішэ «Nowy Kurjer Litewski», 1.500 дзес. Пасланые дзеля тушэньня салдаты і селяне спакойна глядзяць на шалёны агонь. Шмат дзе агонь узнімаўся ад падпалу.

Селяне ў вёсцы Морча (Слуцк пав.) пастанавілі скінуць мейсцоваго праваслаўнаго сьвяшчэніка, забраць у яго парахвіяльные кнігі, а царкоўную зямлю раздзяліць між сабой.

У Слуцкім пав. у двары п. Войнілловіча дэзэртэры сагналі с поля рабіўшых там ваенна-палонных, забралі малатарню, поводлуг сваей думкі павялічылі работнікам плату і падбіваюць народ да выступленьёў.

МІНСК. Група дэпутатоў спаўніцельнаго камітэту рады раб. і салд. прыехала сюды дзеля спраздачы аб ваенных мэтах і наступленьні. Салдаты 700-го пешаго палка, як староннікі большэвікоў, ня згодзіліся з высказанымі аб гэтай справе паглядамі дэпутата Соколова і цяжка пабілі яго і яго таварышоў. Толькі на жаданьне суседніх палкоў дэпутатоў выпусьцілі жывымі.

# Офіцыяльны аддзел.

## Апавешчэньне.

Для ўсяго местоваго округа Вільні выдан гэткі загад:

1. Кожын жыхар, каторы мае дамовую жывёлу ніжэйпісанаго гатунку (сваю ўласную, або толькі на утрыманьні), павінен заявіць аб гэтым у Stadthauptmanna пры Домініканскай вул. 2, пакой 28, не пазьней 25 ліпня 1917 г. Заяўляць трэба аб гэткай дамовай жывёлі: конях, бугаёх, каровах, целятах, сьвінях, аўцах, козах, гусях, качках і курах.

2. Ад 25 ліпня аб кожнай перамені (павялічэньні, ці паменшэньні) ў чысьле паказаных пад цыфрай 1 дамовых жывёлін трэба заяўляць у тры дні гэтак сама ў паменёным мейсцы.

3. За неслухмянасць карацімуць паводлуг §§ 138 і 139 расейскаго статута аб карах.

Вільня, 10 ліпня 1917 г.

Der Stadthauptmann
**Pauly.**

---

П. Глаўнакамандуючый 10 арміей у мінулым месяцы налажыў гэткую контрыбуцію на ніжэйпісаные грамады этапнай тэрыторыі:

1. на грамаду Краўп'ё, Ракіскаго пав., за тое, што грамада паддзержывала ўцёкшых расейскіх ваенных 1.000 м.
2. на грамаду Калкурышкі, Россенскаго пав., за тое, што чле-

# Паляваньне.

Пагінуў сьнег ужо на полі,
Стала усюды гразь, вада;
Стральцом жэ гэта не беда—
Есць птаства ўсякаго даволі:
Пішчыць кулік, і цягне сломка,
Вабіцца шэры ярубок,
Ды і глушэц ляціць на ток,
І цецярук балбочэ громка;
Шпакоў, драздоў, чаек немала,
І стады качэк, ды гусей;
Трудно злічыць дзічы усей,
Што яе к нам папрылетала.
А тут Вялікдзень наступае,
Добра былоб яно, але,
Каб мець зьвярыну на стале,
Бо чуць ня кожын яе мае.
І вот, не надта даўно, з раньня,
Нeяк стрэльца прыслаў мне Бог,
Дык мы, як відзіш, з ім у двох
Пашлі сабе на паляваньне.
Час нам папаўся непагодны,
Дзень вельмі дужа слотны быў,
Як цераз сіта дождж ык ліў,
І ветрык павеваў халодны.
І чуць усьпелі мы дабрацца,
Не затрымаўшыся нігдзе,
Брылі па гразі, па вадзе,
Цераз раку паўзьлі па кладцэ;
І, хоць змарыўшыся, у поце,
Угаварылісь, як рабіць:
Лупіць, што толькі падляціць.
Заселі ў будках на балоце.
Поўнач мінула ўжо глухая,
На небе пачало шарэць,
Было ўжо значна, што сьвітае.
Аж негдзе, там, серад балота
Працяжна закрычаў жураў,
А тут баранчык заблеяў,
І чайкі рынулі, як слота.
Скора цяцеркі заквакталі,
Зараз зашыкалі самцы,
Як на ігрышчы ў нас хлапцы,
У голас ўсе забалбаталі.
То адлятае, то садзіцца,
То хвост распусьце, як індык,
То шыю выцягне, як бык,
І схопяцца с сабою біцца.
Вот мы нагледзіліся многа!
Німа на што і нарэкаць,
Але, каб што упаляваць,
Дык не ўдалося нам нічога!
Праз меру доўга мы сядзелі;
А чэлавек—гэта ня дуб,
У роце клікаў зуба зуб,
Аж нашы стрэльбы акалелі.
Цяпер успамінаць аж жутка,
Як было холадна, дык страх!
Стрэльбы трасьліся у руках;
Цецярукі ляцелі ў будкі.
Праўда, ідучы каля мшару
Аж па калені у вадзе,
Хоць не было відно нігдзе,
Узагналі неяк качэк пару.
Відно, былі праз меру сьмелы,
Бо, ўзьняўшыся яны ў гару,
Кружылі доўгую пару,
А мы да іх чатыры стрэлы,—
І ніхай хто як хочэ судзе,
Хоць не папалі мы у іх,
А страхаў далі не малых,
І жыцьця пэўне ім ня будзе!
Нам посьле тога паляваньня
Халодна было там сядзець:
С парожнім брухам і мяшком
Збіралася мусіць з вяршком
Вёрст іс пятнадцаць да трэпаньня.
Але мы там не асталіся,
Ды пацягнуліся дамоў,
А мой кумпан саўсім прыстаў,
Ледзь, ледзь паволі дапляліся.
І на другі ўжо раз, бывала,
Ніяк і ногі не ідуць,
Як паляваць куды завуць:
Саўсім ахвота ўжо адпала.

**Стары Улас.**

Валожын 1/IV 1911 г.

# Галата і Бедната.

**(Легенда Ж. Марыбэра).**

У аднэй маленькай вёсцы жыў каваль па іменьні Галата.

Маленькая хатка каваля, ядынае яго багацьце, стаяла на самым канцы вёскі; маленькая будоўля яго зусім пачарнела ад дыму кузьні; ззаду маленькі садок, у катораым расло, шырока раскінуўшы свае гальлё, ядынае дрэво—сьліва.

І Галата жыў ды пажываў са сваім верным таварышам, сабакам Беднатой.

* * *

Адзін раз прад кузьняй, злезшы са сваіх мулоў, затрымаліся два незнаёмые.

У таго, што быў маладзейшы, твар аброс белакурай барадой і меў прыемны выгляд; доўгіе валасы каштанаваго колеру шаўковымі пасмамі спадалі аж на каўнер рудога плашча. Яго пажылы таварыш с сівой барадой меў выгляд грубавата-дабрадушны. Ен загаварыў на кавалёва прывітаньне:

КОПЭНГАГА. С прычыны прыпадкоў у Кітаі Японія, пастанавіўшы выступіць, як паступовая дзержава на Усходзі, паслала ў розные пункты войско, каб паддзержаць парадак. Гэта падбіло Злучэные Штаты пайсьці за прыкладам Японіі і так сама пасляць сваё войско ў некаторые пункты.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**10.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У Фляндрыі агонь артылерыі шмат крапчэў. Пры Голебэке, Мэссіне, Ленсе, Фрэнуа і С.-Кантэне—разведачные стычкі.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам у вечары быў востры агонь. Начные атакі французоў адбіты.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскага*: Каля Рыгі, Дзьвінска і Смаргоні крапчэла баевая чыннасць.

На фронці войск Бэм-Эрмолі між Стрыпай і Днестрам — ціха. Пасьля бітвы на паўночным заходзі ад Станіслававa нашы сілы ўзяты назад на другі бераг ніжняго цячэньня патока Лукавіца.

У месяцы чэрвені нашы ворагі утрацілі 220 самалётаў і 33 прывязные шары. Мы утрацілі 58 самалётаў і 3 лятучые шары.

**11.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У ваколіцах дюн наша марская пяхота здабыла крэпка ўмацаваные пазыціі між морэм і Лёмбардсідэ. Ворагі адкінуты на другі бераг Ізэра. Узяты больш за 1250 палонных, у тым ліку 27 афіцэроў. Страты англічан надта вялікіе. Дабыча ешчэ не палічэна. Удачы шмат памаглі нашы лятуны.

**Усходні тэатр:**

Між Балтыцкім і Чорным морэм—без вялікшых бітв.

*Македонскі фронт*: У даліне Струмы англіцкая артылерыя падпаліла некольki вёсак.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). У ваколіцах Станіслававa ворагі нашчупывалі пазыціі толькі вельмі асьцярожна. Яны занялі пакінутае намі мястэчко Галіч.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі затапілі ізноў у паўночных водах 24.500 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак затапіла ў Атлянтыцкім акіані ізноў 31 500 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У лютым і марцы нямецкіе падводные лодкі У 30 і У 6 праз абмылку заехалі ў нідэрляндзкіе воды і былі задзержаны ўласьцямі. Нямецкі ўрад зажадаў звальненьня іх на аснові міжнароднага права. С прычыны таго, што нідэрляндзкі ўрад не прыстаў на гэта, дык справа будзе аддадзена інтэрнацыональнай камісіі, да якой уходзяць немцы, нідэрляндцы, аргентынцы, датчане і швэды.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы лятуны зрабілі налёт на Цэрэль і Арэнсбург на астраві Эзэлі. Відаць было вялікіе пажары. Ня гледзячы на вельмі востры абстрэл, вярнуліся ўсе лятуны.

АМСТЭРДАМ. Паводлуг англіцкіх спісоў страт, у англіцкіх радах ад 1 лютага убыло забітымі, раненымі і палоннымі 315.000 душ, у тым ліку ў чэрвені — 116.000 душ.

ПАРЫЖ. (Рэўтэр). Францускі ваенны атташэ паведаміў грэцкі ўрад у Афінах, што саюзьнікі хочуць абярнуць Грэцію у пункт дзеля страваваньня ўсей усходняй арміі і флота. Саюзьнікі купляюць у Грэціі фабрыкі, якіе выробляюць адзежу, боты, спажыўные прадукты.

## АБВЕСТКІ.



## Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысылаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначаные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

### II. Повесьці і апаведаньня прозай.

| | | | |
|---|---|---|---|
| біс | Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| біс | Казка аб вадзе | — | 3 |
| | Архіп і Лявонка, — М. Горкага | — | 8 |
| | У дому лепей.—Новіча | — | 4 |
| | „Маладая Беларусь“. Сэрыя I-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| | „Маладая Беларусь“ „ „ сшыт. II-гі | 1 | — |
| біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 15 |
| біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 20 |
| | Амэрыканец—А. Новіча | — | 10 |
| | Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 5 |
| | Беларускіе казкі | — | 5 |
| | Хілібэртава пакута, Амф тэатрова | — | 5 |
| | Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| | Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| | „Маладая Беларусь“. Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| | Колядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| | Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| | Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| | Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| | Праклёнышы — Л. Гвозда | — | 6 |
| | Аб чым шэпацелі лісьця | — | 6 |
| | Стражнік.—Сцёпкі Бірыло | — | 10 |
| | Васількі. Зборнік апаведаньнеў Ядвігіна Ш. | — | 30 |
| | Родные зьявы. Зборнік апаведаньнёў. Т. Гушчы | — | 60 |
| | Ня ўсе-ж разам ягомосьці!—Апаведаньне Лесіка | — | 5 |
| | Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — | 5 |
| | Якім бяздольны. Петры Беларуса | — | 10 |
| | Рунь. Зборнік апаведаньнёў Максіма Гарэцкага | — | 40 |
| | Вялікодняя пісанка. Зборнік | — | 30 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.